


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

19 студзеня 2001 года
№ 3 (300)
Цана ў розніцу 105 рублёў

TV ПЛЮС

## Навіны рэгіёна

### Нарадзіўся з каляскаю

**МЯДЗЕЛ**. Першага нованароджанага тысячагоддзя Мядзельшчыны чакалі ў раддоме ажно да 2 гадзін ночы 3 студзеня. Натуральна, новы чалавек заслужыў падарунак.

Пры выпісцы з раддома маці – **Іне Юркевіч** – уручылі каляску ад райвыканкома. Немаўля будзе адгукацца на імя **Дзмітрый**.

Дарэчы, хлопцаў тут сёлета нараджаецца больш за дзяўчынак. На сераду іх было адпаведна 6 і 2.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Хто хоча газ палічыць?

**ВАЛОЖЫН**. Летась валожынцы дружна ставілі сабе лічыльнікі газу – 268 штук (122 з іх – у індывідуальным сектары). Гэта было танней, чым плаціць штомесяц значныя сумы.

На цяперашні момант газавікі маюць 70 аналагічных заяў, але кліенты не спяшаюцца плаціць па 30 тысяч. Гэта пры тым, што абанентам даюць беспрацэнтны 3–месячны крэдыт. Калі раней ставілі планава – па 2 лічыльнікі на дзень, то ў снежні – усяго толькі 5. У людзей няма грошай.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### У «Старой пошце» скідкі

**АСТРАВЕЦ**. Са студзеня ў прыватнай краме "Старая пошта" прадукты харчавання пачалі прадаваць са скідкай. Праўда, не ўсім, а толькі інвалідам.

Па прад'яўленні пасведчання інваліда прадукты можна набыць з 5–працэнтнай скідкай. Падобнае пачынанне ў райцэнтры пакуль адзінае.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Каму зямліцы хочацца?

**СМАРГОНЬ**. На тэрыторыі раёна створаныя 42 садаводчыя таварыствы, якія маюць 531 га зямлі. Але з–за эканамічных цяжкасцяў людзі не могуць на працягу двух год асвоіць іх.

Таму 31 участак адабраны ў ранейшых уладальнікаў і пераразмеркаваны сярод іншых жадаючых. Цяпер свабодныя ўчасткі ёсць, прыкладам, у таварыствах "Надзея", "Ураджайны".

Сярэдні памер фермерскай гаспадаркі складае 23 га. Але і тут назіраецца тэндэнцыя да змяншэння колькасці гаспадарак.

**Павел МАКЛЮК.**

### Новае званне начальніка міліцыі

**АСТРАВЕЦ**. **Уладзімір Кабрынец** узначальвае мясцовы райаддзел міліцыі крыху больш за год. Па выніках аператыўна–службовай дзейнасці за мінулы год, Астравецкі РАУС прызнаны лепшым сярод райаддзелаў Гродзеншчыны.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Клімат у Беларусі робіцца цяплейшы

**МЯДЗЕЛ**. Пра пацяпленне сведчаць дадзеныя супрацоўнікаў азёрнай станцыі Нарач.

Калі сярэднегадавая тэмпература за 40 год назіранняў складае 5,2°С, то ў 1999 годзе яна была на паўградуса вышэйшая. А летась склала 6,5°С. А вось ападкаў два мінулыя гады выпадала менш нормы. Летась – на 6%.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Выстаўка экзатычных жывёл

**ВАЛОЖЫН**. У краязнаўчым музеі адкрытая выстаўка экзатычных жывёл са сталічнага заапарка.

Дзятва задаволеная, бо Валожын не "спешчаны" падобнымі цікавымі відовішчамі. «Што нясеш?» – пытаюся ў першакласніка Лёшкі. «Пяро ад дзікабраза!» – з гонарам адказвае той.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Надвор'е на выхадныя

Субота, 20 студзеня

Мінск
-7 – -8°С (уначы)
-4 – -5°С (удзень)

Вільня
-8°С (уначы)
-3°С (удзень)

Нядзеля, 21 студзеня

Мінск
-6 – -7°С (уначы)
-2 – -3°С (удзень)

Вільня
-7°С (уначы)
-2°С (удзень)

# У ботах па 3-м тысячагоддзі



Фота IREX/ProMedia.

**Будучы абаронца Айчыны захоўвае вертыкальнае становішча, толькі дзякуючы металічнаму слупу. Перад адпраўкай да месца праходжання тэрміновай службы ў арміі. Мінск, 8 студзеня 2001 года.**

З 8 студзеня ў ваенных камісарыятах ідзе адпраўка ва Узброеныя Сілы і іншыя вайсковыя фарміраванні рэспублікі грамадзян, прызваных на тэрміновую ваенную службу ўвосень 2000 – зімой 2001 года. Усяго на ўкамплектаванне войскаў плануецца накіраваць каля 18 тысяч чалавек, у тым ліку, каля 13 тысяч – у беларускую армію. Плануецца, што яе часці будуць укамплектаваныя да 26 студзеня. 28 студзеня маладыя салдаты прымуць ваенную прысягу.

Працяг тэмы чытайце на 4-й стар.



# Сямён Домаш – кандыдат у прэзідэнты



Фота Irex/ProMedia.

**16 студзеня ў канферэнц-зале гасцініцы «Беларусь» ва ўрачыстай абстаноўцы была абвешчаная заява шэрагу грамадскіх арганізацый, незалежных прафсаюзаў і іншых аб'яднанняў грамадзян аб падтрымцы Сямёна Домаша як адзінага кандыдата ад беларускай апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах 2001 года.**

# З аглядкай на Расію

**Пачатак года і стагоддзя разам з доўгімі святамі адсунулі на другі ці нават трэці план прагнозы развіцця эканамічнай сітуацыі ў краіне ў бягучым годзе. І калі на бліжэйшую перспектыву нешта пэўнае можна сказаць з большай або меншай упэўненасцю, то на канец года зрабіць падобнае наўрад ці нехта рашыцца. Пытанне нават не ў тым, што бягучы год – год прэзідэнцкіх выбараў, што безумоўна будзе вызначаць сітуацыю на фінансавым рынку. Без папулізму не абыдзецца ніводны кандыдат у прэзідэнты краіны. Пра рэальную ж цану перадвыбарных абяцанкаў улады насельніцтва даведаецца толькі к верасню, калі ў два разы вырастуць цэны і ў тры разы падаражэюць камунальныя паслугі.**

*Заканчэнне на 3-й стар.*

■ СТАРЫ АЛЬБОМ



Фота з фондаў Вілейскага гісторыка–краязнаўчага музея.

Са здымка на нас пазіраюць удзельнікі трупы народнага тэатра ў Вілейцы. 1935 год. 16 чалавек, аб'яднаных адным захапленнем. Мяркуючы па ўбраннях, ставілася пастаноўка з вясковага або местачковага (на што паказвае гітара ў руках аднаго з самадзейных артыстаў) жыцця. Хутчэй за ўсё, гэты здымак зроблены пасля пастаноўкі п'есы беларускага або польскага драматурга. Добрыя знаўцы тэатра могуць "вылічыць" твор.

Праз чатыры гады мірнае жыццё скончыцца. Нямецкія самалёты будуць скідваць на Варшаву бомбы, а ўся Заходняя Беларусь, па–ранейшым аддзеленая мяжой ад Усходняй, затоіцца ў чаканні невядомага. А пакуль віляйчане яшчэ могуць дазволіць сабе хто іграць у трупе народнага тэатра, хто з захапленнем глядзець яго спектаклі.

**Дарагія чытачы! Калі ў вашым сямейным альбоме ёсць цікавыя фотаздымкі, якія могуць абудзіць успаміны і вы не супраць іх публікацыі, звяртайцеся, калі ласка, у рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты". Захаваем нашу спадчыну.**

**Мікола ГАЙДУК.**

■ НАША ГІСТОРЫЯ

# Успаміны пра Маладзечна

Ад перакладчыка. Гэты тэкст я знайшоў, калі гартаў альбомы, прысвечаныя краязнаўчым паходам чырвоных яшчэ следапытаў у адной з маладзечанскіх школ. Ад тэксту, на маю думку, патыхнула гісторыяй Маладзечна. Спяшаюся падзяліцца гэтымі звесткамі. Прозвішча аўтара – Іван Міхалёнак. Згодна з датай, пазначанай у канцы рукапісу, артыкул напісаны 5.02. 1966 года. Але і цяпер яго чытаць цікава.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

**Іван Міхалёнак (6. 6. 1891 г. Маладзечна – 24.7.1967 г.) удзельнік устанаўлення савецкай улады ў Беларусі, камбрыг (1935), член РСДРП(Б) з 1917 года. Скончыў ваенную акадэмію РСЧА (1927). Удзельнік І сусветнай вайны. У 1917 годзе вёў палітычную работу ў 10–й арміі Заходняга фронту: старшыня палкавога і член карпуснога камітэтаў, член Паўночна–Заходняга абласнога камітэта РСДРП(Б). У час нямецкай акупацыі Беларусі ў 1918 годзе на падпольнай рабоце ў Маладзечне, потым старшыня Маладзечанскага рэўкома. З 1919 года ў Чырвонай Арміі – у палітаддзелах 17 і 54–й дывізій, 4–й арміі, Мазырскай групы войскаў, член Віцебскага павятовага рэўкома. Пасля грамадзянскай вайны камісар 4, 8, 7–й Самарскай дывізій, 5–га стралковага корпуса, з 1927 года ў штабе РСЧА, з 1935 года ў запасе. У 1937 годзе арыштаваны і 19 год правёў у турмах, лагерах і ссылцы.**

## Пра мінулае Маладзечна

... Мне хацелася б спыніцца на тым, што ўяўляла сабой Маладзечна год 70 таму. Я тут нарадзіўся ў 1891 годзе і пражыў свае маладыя гады.

Тады Маладзечна з'яўлялася невялічкім мястэчкам з чатырма вуліцамі, размешчанымі крыжом з пачаткам на местачковай плошчы, каля царквы. На поўнач вяла Замкавая вуліца (так яна звалася, бо ішла да замка пана – князя Агінскага, рэшткі якога да гэтага часу захаваліся на правым беразе ракі Уша), на поўдзень – Гарадоцкая, на захад – Вілейская і на ўсход – Лапінская, альбо Мінская. Насельніцтва не перавышала 2000 чалавек і складалася, у асноўным, з беларусаў. Працэнтаў 25 прыходзілася на яўрэяў. Тут знаходзілася каля 20 дробных лавак, з дзесяць корчмаў, некалькі шаўцоў і кравецкіх майстэрняў, гарэлачная манаполія, аптэка і шпіталь, земскі начальнік з прыставам, ураднікам і стражнікамі, валасное праўленне з пісарам, старшынёй, дзесяцкімі і соцкімі, тры царквы і сінагога, два пачатковыя 3–класныя вучылішчы (адно пры семінарыі, другое – царкоўна–прыходскае, трэцяе – пачатковае яўрэйскае вучылішча з павышанай праграмай), настаўніцкая семінарыя, выхаванцам якой, выпуску 1910 г., я з'яўляюся...

... Два разы на тыдзень, па чацвяргах і нядзелях, у Маладзечне былі кірмашы. Прыязджалі гандляры са сваім таварам: іконамі, малітоўнікамі, аракуламі, каляровымі плакатамі з выявамі ўсіх цароў і кіраўнікоў на зямлі, прыступкай чалавечага жыцця ўверх і ўніз (нараджэнне – дзіцячыя гады – вучоба – вайсковая служба – сямейнае жыццё – старасць і смерць) і з усялякімі брашурамі, як, напрыклад, "Страшная прыгажуня, ці тры ночы ў труне", "Гуак, ці нязломная цнота", "Епанча, татарскі вершнік", "Караван мармонаў, ці бітва пры гранітнай гары", "Як ільвіца выхавала царскага сына" і іншае.

У народзе вялікую ролю адыгрывалі знахары, чараўнікі. У сярэдзіне 1917 года ролю такога чараўніка ў Маладзечне выконваў нехта Людвіг з Калюгі (у канцы Гарадоцкай вуліцы). Гэта быў непісьменны мужык, сталых гадоў, з пакрытым воспінамі тварам, з рыжай барадой, у высокіх ботах і з завушніцай у вуху. Яго ўсе местачкоўцы баяліся...

**Працяг будзе.**

**Іван МІХАЛЁНАК.**

## Афорты засталіся

МЯДЗЕЛ. У музеі завяршылася выстаўка мастака–графіка **Леаніда Марчанкі**. Але 5 афортаў з серыі "Край Нарачанскі" засталіся. Іх перадала ў дар музею ўдава мастака **Ніна Марчанка**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ЭКАНОМІКА

## Даражэюць энерганосьбіты

**У 2000 годзе найбольшымі тэмпамі ўзрасталі тарыфы на электрычнасць, ацяпленне і гарачую ваду Такім чынам, даражэе найперш тое, што звязанае з энерганосьбітамі. З таннай расійскай энергіяй.**

Паводле вынікаў 2000 года, плата за карыстанне ліфтам узрасла ў 1,9 раза, тарыф на халодную ваду і каналізацыю — у 2,8 раза, на газ — у 3,1 раза, кватрплата — у 3,8 раза, тарыф на абясшкоджванне адходаў — у 5,6 раза, вываз адходаў — у 5,7 раза, ацяпленне і гарачую ваду — у 8,3 раза, электраэнергію — у 10—10,7 раза (у залежнасці ад тыпу пліты і месца пражывання).

У будучым годзе рост тарыфаў на камунальныя паслугі працягнецца. Так, 16 снежня на 40% узрос кошт газу (да 154,4 рубля пры наяўнасці газавай пліты і гарачага водазабеспячэння). Гэтае павышэнне будзе ўлічана ў студзеньскіх разліковых лістках.

**Па матэрыялах БелаПАН.**

## 1344 тысячы еўра на рэканструкцыю «Каменнага Лога»

**У Дзяржаўным мытным камітэце Беларусі падпісаны кантракт з Лідскім будаўнічым трэстам № 19 на рэканструкцыю пагранічнага пункта пропуску «Каменны Лог". Гэта першы інвестыцыйны праект па рэканструкцыі пагранічных пераходаў, які фінансуецца ў рамках праграмы ТАСІС Еўрасаюза па трансмежавым супрацоўніцтве.**

Старшыня ДМК **Вікенцій Макарэвіч** паведаміў журналістам, што ўсяго на работы по рэканструкцыі пункта пропуску «Каменны Лог» Еўрапейскай камісіяй выдзяляецца 1 мільён 344 тысячы еўра. Непасрэдна правядзеннем будаўнічых работ зоймецца Лідскі будаўнічы трэст № 19, які абышоў у канкурэнтнай барацьбе фірмы з Італіі і Фінляндыі і стаў пераможцам у тэндэры, праведзеным Еўрапейскай камісіяй.

Рэканструкцыя гэтага пагранічнага пераходу была распачатая яшчэ ў 1997 годзе і дагэтуль фінансавалася з бюджэту Саюза Беларусі і Расіі. Сёлета ў снежні ўведзены ў эксплуатацыю першы пускавы комплекс «Каменнага Лога» — будынак і збудаванні для ажыццяўлення кантролю і афармлення грузавога аўтатранспарту на ўезд у Беларусь. З пачаткам фінансавання праекта рэканструкцыі Еўрасаюзам плануецца ў 2001 годзе ўвесці другую чаргу гэтага пагранпераходу — пасажырскі комплекс. Поўнасцю, па словах Макарэвіча, будаўніцтва пункта пропуску «Каменны Лог» павінна быць завершана ў 2002 годзе. У выніку прапускная здольнасць складзе 2.060 аўтатранспартных сродкаў у суткі: па 1000 грузавых і легкавых аўтамабіляў і 60 аўтобусаў.

**Па матэрыялах БелаПАН.**

■ РАМОНТЫ

## Навагодні рэстаран

**ВІЛЕЙКА. "У дверей заведения народа скопление..." – прыкладна так можна было характарызаваць у навагоднія дні сітуацыю каля рэстарана "Вілія".**

Старшы адміністратар **Тамара Васюціна** нагадвае, што рэстаран зачыніўся на рамонт яшчэ вясной, таму ягонае адкрыццё 26 снежня стала для многіх гараджанаў падарункам да свята.

Ці не кожная вілейская арганізацыя жадала правесці тут Навагодні агеньчык. Пасля рамонту рэстаран пасвятлеў, зазіхацеў новымі фарбамі. Абнавіўся і калектыў – больш стала спрытных і ветлівых работнікаў. На свята гучыць жывая музыка, праводзяцца гульні і конкурсы. Не апошняе месца займае кухня. Напрыклад, фірменнае блюда – кілбаскі "Вілія" – ведаюць не толькі ў Вілейцы, але і ў Маладзечне і Мінску.

**Ігар КІЦІКАЎ.**

■ ПРЫЗНАЧЭННІ

## Новы спартыўны кіраўнік

**ВАЛОЖЫН. Больш за паўгода райцэнтр жыў без загадчыка аддзела па фізкультуры, спорце і турызме. Нядаўна на гэтую пасаду прызначаны Аляксандр Кавяза.**

Ён настаўнічаў у 8–гадовай школе, куды пасля інфізкульта прыехаў па размеркаванні. Апошнімі гадамі паспытаў сябе і як прадпрымальнік. У 1995 годзе зноў вярнуўся ў спорт, быў завучам ДЮСШ. Ягоная інстытуцкая спецыялізацыя – футбол. У любімы від спорту ён калі–нікалі гуляе, але трэніруе баскетбалістаў (валожынскія жанычыны пад яго кіраўніцтвам нядаўна абыгралі маладзечанак і сталі чэмпіёнкамі вобласці).

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ МІЛАСЭРНАСЦЬ

## Намалюй сваё жыццё

**МАЛАДЗЕЧНА. Прадстаўнікі Цэнтра дзіцячай творчасці наведалі мясцовы дом–інтэрнат для састарэлых і інвалідаў. Было вельмі прыемна ўбачыць на тварах старых людзей усмешкі. Вясёлая і прыемная бабулька Алена Скавыш, якой ужо 76 год, з задавальненем прачытала свой верш.**

Тыя, каго пакінулі родныя, хто быў удзельнікамі Другой сусветнай вайны, якім цяпер больш за 70 год, лічаць сябе маладымі. Яны складаюць вершы, малююць, робяць сваё жыццё прыгажэй, чым яно ёсць на самой справе.

**Вольга КАЛІТНІК, Юлія ПРЫВАЛАВА.**

## Консул прыедзе не з пустымі рукамі

**АСТРАВЕЦ. У канцы студзеня на Астравеччыну прыязджае генеральны консул Польшчы ў Гродне Сільвестр Шостак. Для дзяцей, якія вывучаюць польскую мову, ён прывязе падарункі.**

Акрамя ўсяго, чакаюцца сустрэчы ў раённым аддзяленні Саюза палякаў і ў Доме паляка ў Кямелішках.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Акцыя "Праменьчыкі надзеі"

АСТРАВЕЦ. Тут прайшла акцыя "Праменьчыкі надзеі". Удзельнікі яе займаліся зборам кніг, якія затым перадалі дзецям–сіротам у мясцовы дом–інтэрнат.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Хутка будзем з лазняй

**АСТРАВЕЦ. Напрыканцы мінулага года ў райцэнтры пачалі рамонт лазні.**

Нягледзячы на нязначнае фінансаванне, у лютым, як зазначыў начальнік камунгаса **Станіслаў Пятроўскі**, плануецца завяршыць унутраныя работы. З пацяпленнем зробяць рамонт фасада.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

**Кінатэатр «Радзіма»** **Вялікая зала, студзень**

19–21 **"Дзённік яго жонкі"**, Расія–Балгарыя, драма (фільм фестывалю "Лістапад–2000") 17–00, 19–10
**"Гэта ўсё яна"**, маладзёжная камедыя, ЗША 13–00, 15–00, 21–20

23–28 **«Місія невыканальная–2»**, ЗША, баявік, прэм'ера 16–00, 18–30, 21–00

**Для дзяцей**

21 – **"Прыгоды коніка Кузі №2"** 11–00

■ ДНІ

**19 студзеня – 70 год з дня нараджэння** (1931) **Н. Паплаўскай**, беларускага графіка.

**21 студзеня – 115 год з дня нараджэння А. Туранкова** (1886–1958), беларускага кампазітара.

**24 студзеня – 70 год з дня нараджэння** (1931) **М. Мушынскага**, беларускага крытыка, літаратуразнаўцы, тэкстолага.

■ ІМЯНІНЫ

**19 студзеня**
Праваслаўныя: **Вадохрышча (Хрышчэнне Ісуса Хрыста, Багаяўленне).**
Каталіцкія: **Марты, Генрыка.**

**20 студзеня**
Праваслаўныя: **Іаана Хрысціцеля.**
Каталіцкія: **Себасцьяна, Фабіяна.**

**21 студзеня**
Праваслаўныя: **Васілісы, Амялляна, Анастасіі, Антона, Георгія, Ільі, Рыгора, Сідара, Феафіла, Юльяна.**
Каталіцкія: **Агнешкі, Яраслава.**

**22 студзеня**
Праваслаўныя: **Піліпа, Пятра, Яўстрата.**
Каталіцкія: **Анастаса, Вінцэнта.**

**23 студзеня**
Праваслаўныя: **Макара, Паўла, Рыгора, Феафана.**
Каталіцкія: **Марыі, Ідальфонса, Раймунда.**

**24 студзеня**
Праваслаўныя: **Міхаіла, Фядоса.**
Каталіцкія: **Фяліцыі, Рафала, Францішка.**

**25 студзеня**
Праваслаўныя: **Таццяны, Пятра, Савы.**
Каталіцкія: **Мілаша, Паўла.**

■ МІНІ-ФУТБОЛ

# Змагаемся за Кубак

**14.01 Эканаміст (Мінск) – Металург-JP 3:10 (1:6)**

**Галы:** (5), (24), (35); Сіткевіч (9, 19), Кузняцоў (13, 34), Шаўчэнка (16), Гружэўскі (17), Янель (18, 39), Гарнастаеў (25, 37).
**Ход гульні** – 1:0, 1:6, 2:6, 2:8, 3:8, 3:10.
**Склад:** Кіркіж, Бахур; Гарнастаеў, Грабёнак, Гружэўскі, Казяк, Кузняцоў, Максімаў, Сіткевіч, Снятко, Шаўчэнка, Янель.

Іншыя вынікі папярэдняй стадыі: Днепр-95 (Быхаў) – Белаўтасервіс 3:4, ЦКК – Энергія (Гомель) 3:2, Верас – Белаграпрамбанк (Мінск) 5:2, МАПІД – Энергетык 4:0, Хемікс – Беліндзяржстрах-БДПА 10:2.

19-21 студзеня ў Мінску пройдуць аднакругавыя турніры ў двух групах. Сапернікамі маладзечанцаў стануць мінскія "Сімург" і МАПІД ды светлагорскі ЦКК. У другой групе знаходзяцца іншыя пераможцы папярэдніх матчаў плюс "Дарожнік". У паўфіналы выходзяць па двое лепшых, там яны згуляюць крыж-накрыж.

Па складзе ўдзельнікаў наша група патэнцыяльна слабейшая. "Металург" абавязаны быць вышэй у табліцы за МАПІД і ЦКК. Добра тое, што з "Сімургам" згуляем у групе. Гэта значыць, у паўфінале, як летась, ён маладзечанцам шлях не пяройдзе.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**


Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.
**Уладзімір Макоўскі прымерваецца да «Металурга-JP».**

■ ШАХМАТЫ

# Другі «рэгіянальны» становіцца традыцыйным

**МАЛАДЗЕЧНА. Напярэдадні праваслаўных калядаў адбыўся другі рэгіянальны шахматны турнір. Ён прадставіў практычна ўвесь рэгіён: шахматысты з Маладзечна, Вілейкі, Валожына і Смаргоні разыгралі прызы і атрымалі зарад шахматнай энергіі.**

Першае месца заваяваў дасведчаны **Аляксандр Карачун** (Маладзечна) – 7,5 ачкоў з 11 магчымых, 2–3 месцы падзялілі дзесяцігадовы **Юра Рудой** са Смаргоні і віляйчанін **Александр Сідаровіч** – па 6,5 ачкоў. Прадстаўнікі Валожына **Андрэй Кашкан** і **Вячаслаў Косік** крыху адсталі, але "дыхалі" прызёрам у спіну ўвесь час. Адзначу прагрэс Юры Рудога і няўдалае выступленне маладзечанскай надзеі **Андрэя Чаеўскага** (7 месца). Можна меркаваць, што ў наступным месяцы (турнір адбудзецца 9 лютага а 17–й гадзіне) узнагароджванне пройдзе зусім без гаспадароў. Я, напрыклад, стаўлю на перамогу Юры Рудога!

**Віталь КАЧАТКОЎ.**

## Табло

■ БАСКЕТБОЛ

**МАЛАДЗЕЧНА. Мінскае абласное ўпраўленне адукацыі і маладзечанская ДЮСШ-1 (дырэктар Анатоль Яфімаў) арганізавалі прадстаўнічы турнір сярод хлопцаў 1987 года нараджэння. У спартзале палітэхнікума гулялі 7 каманд з Беларусі (гаспадары, Гомель, Брэсцкая вобласць, Мінская вобласць), Расіі (2 каманды з Санкт-Пецярбурга) і Літвы (школа Арвідаса Сабоніса з Каўнаса).**

У групе маладзечанцы перамаглі брастаўчан, саступілі Гомелю і Санкт-Пецябургу-1. Потым перамаглі другі расійскі калектыў і занялі ў выніку пятае месца. Тройку прызёраў склалі: 1. Каўнас 2. Санкт-Пецярбург-1 3. Мінская вобласць.

З нашых землякоў можна выдзеліць **Вячаслава Лукашэвіча**, а таксама **Юрыя Драмлюка**, які выступаў за каманду вобласці.

У спаборніцтвах па штрафных і па трохачковых кідках маладзечанец **Павел Лінкевіч** толькі ў фінальнай перакідцы трохачковікаў саступіў канкурэнту з Мінскай вобласці.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ЛЫЖНЫ СПОРТ

МЯДЗЕЛ. Два сярэбраныя медалі заваявала выхаванка мясцовай ДЮСШ **Ірына Нафрановіч** на юніёрскім чэмпіянаце краіны ў Раўбічах - заняла другія месцы на дыстанцыях 5 км класічным стылем і 15 км свабодным стылем. Гэта пры тым, што спаборнічала яна не з равесніцамі, а са спартсменкамі ўзростам да 20 год (Ірына мае ўсяго 16).

Цяпер яна на зборах у Славеніі, дзе рыхтуецца да юніёрскага чэмпіянату свету ў Польшчы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ МІНІ-ФУТБОЛ

МАЛАДЗЕЧНА. У спартзале завода металаканструкцый 7 лепшых мясцовых каманд і адна сталічная аспрэчвалі "Прыз мінулага тысячагоддзя". Тройку прызёраў склалі: 1. "Кірмаш" 2. "Унікаб" 3. ЗМК.

Шмат галоў забіў **Сяргей Півавар** з ЗМК. А ў складзе пераможцаў выступалі прыватныя прадпрымальнікі і іх сябры, сярод якіх і некаторыя вядомыя футбалісты. Трэніраваў іх **Анатоль Ішчанка**.

На гэтай жа пляцоўцы адбыўся рэспубліканскі турнір памяці воіна-спецназаўца Сяргея Коршунава сярод хлопцаў 1987 года нараджэння. Тройка прызёраў: 1. "Маладзечна-2" (18 ачкоў) 2. ДЮСШ (Смаргонь, 12 ачкоў) 3. ДЮСШ (Жодзіна, 12 ачкоў). Яшчэ адна каманда гаспадароў стала пятай.

Пераможцаў з ДЮСШ-2 трэніруе **Валерый Вятроў**. У іх складзе быў лепшы варатар турніра **Дзяніс Ганчароў** і лепшы бамбардзір (13 галоў) **Станіслаў Баламут**. У смаргонскай камандзе (трэнер **Віктар Страшынскі**) гуляў лепшы абаронца турніра **Андрэй Лапыцька**.

■ ФУТБОЛ

МАЛАДЗЕЧНА. 37-гадовы спецыяліст з Гродна **Юрый Чакан** будзе працаваць у чысцінскай "Забудове". Ён прывёз дзесяць сваіх выхаванцаў студэнцкага ўзросту. З'явіўся ў камандзе малодшы брат Аляксандра Садчанкі Віктар. Чакаецца прыезд яшчэ некалькіх гульцоў. Падрабязнасці ў наступным нумары.

■ НАШЫЯ ІНТЭРВ'Ю

# Людас Румбуціс пра футбол і бізнес

**Працягваем друкаваць інтэрв'ю з галоўным трэнерам ФК "Маладзечна" Людасам Румбуцісам.**

**– Як вы "раскруціліся" ў бізнесе? Не кожны ж спартсмен пасля заканчэння кар'еры знаходзіць сябе ў жыцці, а тым болей, у такой сферы.**

– Хто такі футбольны трэнер? Просты прыклад: Румбуціс і "Белшына". Не спадабалася людзям, што незалежны чалавек, што не пускаў у раздзявальню. Прыбралі Румбуціса. А што далей рабіць, з чаго жыць, чым сям'ю карміць? Не хадзіць жа і казаць: "Я чэмпіён Савецкага Саюза, дайце мне тое і тое"?

**– Як вы працавалі?**

– Сустрэліся са сваімі сябрамі, з'ездзілі ў Літву. У мяне сябра меў фірму. Быў 1991 год. Мы паглядзелі і зрабілі сваю фірму, вось і ўсё. Я ў бізнесе не працую ўжо гады 4, толькі дапамагаю часам жонцы. Яна ў мяне бізнесвумен. Проста бізнес мне дапамагае адчуваць сваю незалежнасць, як чалавеку і як трэнеру.

**– Калі ласка, падрабязней пра вашу сям'ю.**

– Жонку завуць Ганна. Сын жанаты, яму 24 гады. І ўнуку чацверты годзік.

**– Вы былі ў многіх краінах, раскажыце, што-небудзь цікавае, што запомнілася.**

– Вось у Эміратах адпачываў. На жаль, не ўдалося дамовіцца з тамтэйшым шэйхам, каб даў нафты на падтрымку "Маладзечна". Бываў у Аўстраліі ў гасцях у сястры, яна там жыве. Казка, а не краіна. Германія вельмі падабаецца. Я вельмі часта ездзіў туды раней, цяпер проста не атрымліваецца. Потым яшчэ Фінляндыя спадабалася сваёй размеранасцю.

**– На якіх матчах вы былі за мяжой?**

– Быў у Аўстраліі на гульні тагачаснага чэмпіёна "Марконі", у Германіі на некалькіх матчах "Кайзерслаўтэрна", "Вердэра", "Гамбурга". У Літве, калі прыязджаю, пастаянна хаджу, і ў Латвіі бываў.

**– Матчы фінальных частак чэмпіянатаў свету, Еўропы?**

– Быў у 1990 годзе ў Італіі, разам з групай савецкіх спецыялістаў бачыў 5 ці 6 сустрэч.

**– Што запомнілася ў арганізацыі гэтых матчаў?**

– Нам да іх як да Месяца. Напрыклад, у бундэслізе можна з півам, з бутэрбродам ісці на трыбуну, з пластмасавым стаканчыкам. У нас на міжнародных матчах нельга, на жаль. У нас няма месца, дзе паставіць машыну, нават на "Дынама", там толькі адна стаянка побач. Стаў, дзе хочаш, хоць на вушы сабе вешай. Пасля гульні няма магчымасці нідзе ні пасядзець, ні пагаварыць, ні абмеркаваць, ні паглядзець. Я ў Аўстраліі ашалеў, калі быў стадыён недзе на 12 тысяч, а піўны бар побач – на тысячы 3. Адпаведна, людзі прыйшлі – ім па новай гэтую касету паставілі, і яны сядзяць сабе глядзяць. Хто глядзіць забегі сабак, хто футбол, абмяркоўваюць за півам. А ў нас няма інфраструктуры. Новы стадыён у Барысаве – зноў жа пад'ехаць, машыну паставіць няма дзе. У нас стадыёны разлічаныя на пешаходаў.

**– Ведаю, што вы трэніруецеся і гуляеце ў так званай хакейнай камандзе прэзідэнта. Хто ўваходзіць у яе? Як часта трэніруецеся?**

– З вядомых асоб – **Курбыка, Захараў, Папоў, Булыгін, Чыж**, брат **Руслана Салея Вадзім**. Трэніруемся 2–3 разы на тыдзень. Гульні бываюць 5–6 разоў за сезон.

**– Лукашэнка з вамі, напэўна, у адной раздзявальні пераапранаецца?**

– Не. Асобна. Усё ж гэта прэзідэнт.

**– Тым не менш, зносіны з ім маеце. Як можаце ахарактарызаваць гэтага чалавека менавіта ў зносінах?**

– Калі каротка – у яго вельмі пранізлівы позірк. І ён нібы чытае думкі. Адразу кажу: патрабавальнасць на парадак вышэйшая, чым у астатніх людзей.

**– Вось такое пытанне. Людзі, якія трэніруюцца, у кожнага з іх свае праблемы – і асабістыя, і рабочыя. Ці выкарыстоўваюць магчымасць неяк вырашыць іх, калі не з прэзідэнтам, то з кімсьці з ягонай світы?**

– Не ведаю, як хто, а я свае праблемы вырашаю сам. Навошта грузіць асабістыя праблемы на кіраўніка краіны? Футбольныя праблемы ў добрым разуменні вырашаюцца, напэўна. Ведаю, Курбыка, **Вергяенка** падыходзілі, пра федэрацыю гутарылі, Чыж пра сваё мінскае "Дынама" расказваў. Там жа ніхто не вырашае: дайце мне кватэру, дайце мне машыну. Там проста высвятляецца нармальная, скажам, праблема, якая павінна вырашацца для ўсіх.

**– Да пытання, якое падчас "прамой лініі" задаваў Страх. Вы адказалі, што няма добрага нападаючага. А як ацэньваеце сітуацыю з Макоўскім? Чаму ён згубіў свае якасці?**

– Не гуляе. Нават у кіеўскім ЦСКА, дзе быў, не загуляў.

**– Чаму ў яго не склалася кар'ера за мяжой?**

– Таму, што чалавек не прывык пазмагацца за сваё месца. Не вытрываў, я кажу пра Валодзю Макоўскага – Міша слабейшы за яго, як гулец. Не вытрываў таго, што трэба прывыкнуць, што ты цяпер у запасе і што кожны год прыходзіць новы моцны нападаючы. Штогод, штотыдзень, кожную трэніроўку трэба даказваць сваю сілу.

**– Выходзіць тут, на Беларусь яго гэтаму не навучылі?.**

– У Маладзечне пры мне яму не было роўных. У "Дынама" яго пачалі вучыць, ён пайшоў гуляць і пачаў забіваць. Ён гуляў два сезоны, ён пастаянна забіваў, пастаянна пацвярджаў свой добры ўзровень. І ў Кіеве пачаў гуляць, быў момант, калі ён выйшаў у Празе і аддаў на апошніх хвілінах галявую перадачу, што вывела каманду ў Лігу Чэмпіёнаў. І чалавек пачаў неяк няправільна разумець некаторыя моманты. Таму не вытрываў, проста не вытрываў. **Бялькевіч** там сядзеў доўгі час на лаўцы, але здолеў прабіцца ў аснову.

**– Як вы лічыце, што ўперадзе ў Макоўскіх?**

– Не ведаю. Я іх сёлета не бачыў, не размаляў. Калі б пагаварыў, то ведаў бы. Гуляць могуць, яны ж з 1977 года. Усё жыццё футбольнае наперадзе. Проста трэба ўзяцца за галаву, за сябе. Правільна расставіць акцэнты ў сваім футбольным жыцці. І ў жыцці наогул.

**– Раскажыце пра свае жыццёвыя прынцыпы.**

– Ух, я збіраўся гутарыць пра футбол, а тут такія пытанні. Прыстойнасць заўсёды, а не на час. Я столькі сутыкаўся з рознымі людзьмі, працаваў у многіх камандах, былі справы ў федэрацыі. Да гэтага часу ў большасці выпадкаў у мяне нармальныя стасункі з усімі людзьмі, таму што я за прыстойнасць ва ўсіх справах.

**Заканчэнне будзе.**

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

## Рэспубліканскі рэйтынг за 2000 год

**1 месца**, 10 км, **Аксана Васілеўская** (Маладзечна, 1975 г.н.), 34.31,5

**1 месца**, 2 км з перашкодамі, **Аксана Васілеўская**, 6.41,87

**2 месца**, дыск, **Васіль Капцюх** (Маладзечна, 1967), 67,59

**3 месца**, 5 км, Аксана Васілеўская, 16.15,24

**4 месца**, дыск, **Аляксандр Малашэвіч** (Смаргонь, 1977) 61,70

**5 месца**, 3 км, Аксана Васілеўская, 9.37,17

**5 месца**, марафон, **Вольга Ляўчук** (Маладзечна, 1971), 3:16.17

**7 месца**, хадзьба на 5 км, **Наталля Мятлеўская** (Астравец, 1984) 25.16,8

**9 месца**, даўжыня, **Ігар Фартунаў** (Маладзечна, 1973), 7,28

**9 месца**, 5 км, **Марына Карніцкая** (Валожын, 1984) 17.47,66

**9 месца**, 400 м, **Вікторыя Вяроўкіна** (Вілейка, 1980) 55,81

**10 месца**, 3 км, **Руслан Садоўскі** (Маладзечна, 1980), 8.19,16

■ ДЗЮДО

МІНСК. У рэспубліканскай спартакіядзе па дзюдо сярод выхаванцаў 1987 года нараджэння бралі ўдзел больш за дваццаць школ. Прадстаўнікоў смаргонскай ДЮСШ-1 (дырэктар **Валерый Юрчанка**) рыхтавалі трэнеры **Сяргей Шышкоў** і **Уладзімір Грышкевіч**. Хлопцы занялі агульнакаманднае месца ў сярэдзіне табліцы, а вось дзяўчаты сталі першымі. Важкі ўклад унеслі пераможцы ў асобных вагавых катэгорыях **Наталля Парамонава** (да 48 кг) і **Лідзія Андронава** (да 44 кг).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## На гэтым тыдні гуляюць

(матчы пройдуць у Мінску)
**19.01 Металург-JP – ЦКК (Светлагорск)**
У чэмпіянатах: +2=1-0 13-6. У гэтым сезоне 5:3 на выездзе.
**20.01 Металург-JP – МАПІД (Мінск)**
У чэмпіянатах: +1=1-1 6-6. У гэтым сезоне 0:0 дома.
**21.01 Металург-JP – Сімург (Мінск)**
У чэмпіянатах: +1=1-1 4-9. У гэтым сезоне 0:0 на выездзе
У паўфінале мінулагодняга Кубка 4:5.

■ ПЛАВАННЕ

МАЛАДЗЕЧНА. Плавальны басейн "Маладосць" аб'явіў набор вучняў 2–3 класаў у групы па навучанні плаванню.

Запісваюць у іх штодня ў 9–00 і 15–00.

Даведкі па тэл. у Маладзечне **53134, 53034**.

